


Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№41(554) 27 лютага 1993 г. Субота. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 607902 экз. Кошт у розніцу — 4 руб.


## ФАКС

### Вкратце

**Сегодня в Витебске открывается международный форум "Нации. Границы. Судьбы".**

Представители различных молодежных организаций получат возможность не только встретиться друг с другом, но и обсудить свои проблемы с работниками ряда министерств Латвии, Литвы, России, Беларуси.

❑

**По сведениям БелаПАН, соответствующими структурами Верховного Совета и Совета Министров республики разработан проект закона о праве граждан Беларуси на свободный выбор и перемену места жительства.**

Однако сторонникам отмены прописки ликовать рано: данный проект будет рассматриваться Верховным Советом не ранее 1994 года.

❑

**Сегодня в Вильнюсском педагогическом университете состоится большое собрание Общества белорусской школы.**

Основной вопрос — открытие со следующего учебного года белорусской гимназии.

❑

**Встреча между президентами Российской Федерации и Соединенных Штатов намечена на 4 апреля.**

Место ее проведения пока не определено. Для этого, вероятно, потребуется еще одна встреча руководителей внешнеполитических ведомств двух стран.

### А тем для разговора все прибавляется

**Председатель Верховного Совета Станислав Шушкевич встретится вскоре с ветеранами Минского автозавода.**

Ветераны крупнейшего в столице предприятия не один месяц добивались встречи с ним, однако из-за визитов, саммитов и сессий все откладывали разговор по душам. Наконец в плотном расписании дел — "окно". Встреча с клубом "Ветеран" назначена на 2 марта и состоится во Дворце культуры автозавода.

РИД.

### Обогатит ли уран?

**Соединенные Штаты намерены закупить в России 500 тонн обогащенного урана, полученного после демонтажа российских ядерных вооружений.**

Цены на уран еще предстоит установить, и доходы от его продажи будут поделены между Россией, Украиной, Беларусью и Казахстаном. Об этом сообщило вчера радио "Свобода".

Ирина КОРЗИНКИНА.

### Небо поможет?

**Венгерское правительство дало принципиальное согласие на использование воздушного пространства страны американскими самолетами с грузами гуманитарной помощи для Боснии.**

На участвующих в гуманитарной акции самолетах США не будет каких-либо вооружений и их не будут сопровождать боевые истребители. Грузы помощи предназначены как для хорватского, так и для сербского и мусульманского населения Боснии и Герцеговины.

Сергей ЖИРНИХИН.

### Спорт-экспресс

27—28 февраля в минском Дворце спорта состоится международный турнир по мини-футболу. В нем примут участие олимпийские сборные Беларуси, Литвы, Латвии, национальная сборная Македонии, якутский клуб "Динамо", молодечненский "Металлург", бобруйский "Фандок" и мини-футбольный клуб "Менск".

Турнир интересен не только представительным составом участников, но и тем, что матчи будут проводиться не по мини-футбольным правилам ФИФА, а по правилам большого футбола в хоккейной коробке.

❑

В матче Кубка МХЛ хоккеисты минского "Динамо" выиграли в гостях у рижского клуба "Пардаугава" — 6:3.

❑

Английский город Манчестер избран местом проведения матча за мировую шахматную корону 1993 года.




Рисунок Олега ПОПОВА

### Сколько стоят кадры?

**Растут в цене квалифицированные рабочие руки.**

Если раньше предприятию, желающему прописать в Минске ценного работника, нужно было выложить городской казне 16 тысяч рублей, то теперь эта сумма равна 200 минимальным окладам, т.е. 600 тысячам рублей.

Бюджетные организации, нуждающиеся в "спецах", должны убедительнейшим образом доказать, что таковых не имеется среди безработных жителей столицы. В этом случае они заполучат нужных людей "задаром".

Сергей ВЕРАС.

Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты" агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, БелаПАН и РИД.



*Людзі справы*



Раўбічы — гэта не толькі маляўнічыя мясціны, мноства спортзбудаванняў, спартыўныя святы. Гэта і людзі, якія тут працуюць.

Пракладваннем лыжных трас, абсталяваннем трамплінаў займаюцца Андрэй Таболіч і Павел Васілеўскі — рамонтнікі спортзбудаванняў. А Георгій Яўгенавіч Пархімовіч — электраслесар. Вось ужо 8 гадоў кожны дзень ездзіць з Мінска ў Раўбічы. А гаспадарка ў яго вялікая — 36 гектараў спорткомплексу абслугоўвае ён з напарнікам.

Фота Сяргея БРУШКО.

## Да візіту Тэадора Віярэла Мелешкану ў Беларусь

28 лютага ў Рэспубліку Беларусь з афіцыйным візітам прыбывае дзяржаўны міністр, міністр замежных спраў Румыніі Тэадор Віярэл Мелешкану.

Нарадзіўся 10 сакавіка 1941 года ў павеце Хунедаара. У 1964 годзе закончыў юрыдычны факультэт бухарэсцкага універсітэта, а ў 1970 годзе — Інстытут вышэйшай міжнароднай адукацыі ў Жэневе. Доктар палітычных навук жэнеўскага універсітэта.

З 1966 года працуе ў МЗС Румыніі, мае ранг пасла. Уваходзіў у састаў шматлікіх дэлегацый Румыніі ў ААН, працаваў першым сакратаром у пастаяннай місіі Румыніі пры бюро ААН у Жэневе. У 1989—1990 гадах кіраваў румынскай дэлегацыяй на перагаворах у Вене па скарачэнню ўзброеных сіл і звычайных узбраенняў у Еўропе, а таксама на перагаворах па выпрацоўцы мер давер'я і бяспекі ў Еўропе.

З 1991 года — дзяржсакратар у МЗС Румыніі, начальнік палітычнага дэпартамента па праблемах Еўропы і Паўночнай Амерыкі. З лістапада 1992 года — міністр замежных спраў Румыніі.

Жанаты, мае дзіця.

Белінфарм.

*Сердитым голосом*

## Не оскорбляйте село!

**Звонок в "Народную газету" председателя колхоза имени Горького Пинского района Василия Горошко.**

Десятки, а то и сотни телефонных звонков раздаются ежедневно в редакции "Народной газеты". Но этот — из тех, от которых хочется заплакать. Вместе с председателем колхоза имени Горького Пинского района, кандидатом сельскохозяйственных наук Василием Моисеевичем Горошко.

— Я родился и вырос в деревне. Почти тридцать лет работаю в сельском хозяйстве, — тревожно звучал его голос на другом конце провода. — Но не припомню, чтобы когда-нибудь так оскорбляли село, как сейчас. Это же надо — из Италии завозить в Беларусь картофель! Дожились, доруководились... Исконно национальный продукт экспортируется за тридевять земель! Кому понадобилось так унизить нас, сельских тружеников?

— Итальянский картофель поступает по линии гуманитарной помощи, — попытались успокоить В.М.Горошко. Но наши слова вызвали у него еще больший гнев.

— Какое это имеет значение? — возмущался известный председатель колхоза. — Уже сам факт, что в Беларусь завозится бульба, — оскорбление чести сельчан, всех белорусов. Мы что — разучились выращивать картофель? Или мы хуже тех же итальянцев? Я назову десятки колхозов и совхозов на Пинщине, которые не могут сбыть картофель, а тут — ешьте итальянский. За импортный минчане выкладывают по 23 - 30 рублей за килограмм, а мы и по 15 рублей не можем сбыть. Эта же проблема, знаю, существует и на Гродненщине.

Кому нужно окончательно скомпрометировать село? Кто надеется выехать за счет зарубежных подачек? Кстати, если это гуманитарная помощь, то она должна быть бесплатной, а тут безбожная цена. Опять же — чтобы оскорбить нас, сельчан. Я эти слова адресую как Верховному Совету, так и Совету Министров. Не лучше ли, товарищи, повернуться лицом к деревне, предоставив ей нормальные условия для работы и жизни? Страшно подумать — литр горючего дороже литра молока? Это жа разорительная, смертельная политика! Отпустили заводы и фабрики на "вольные хлеба". Отпустите и нас, сельчан. Мы — не рабы, мы — труженики. Не оскорбляйте нас итальянской картошкой! Мы, белорусы, умеем сами выращивать отличную бульбу.

*После того, как В.М.Горошко положил трубку, нам подумалось: а ведь и вправду обидно и стыдно за страну.*

## Велікапоснае пасланне мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха усяе Беларусі, члена Свяшчэннага Сінода

**Заўтра, 28 лютага, у праваслаўнай царквы асаблівы дзень — Дараваная Нядзеля.**

**1 сакавіка наступае Вялікі пост. У сувязі з гэтым ва ўсіх храмах Рэспублікі Беларусь заўтра будзе зачытана Велікапоснае пасланне мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі.**

Узлюбленыя ў Хрысце браты і сёстры, беларуская пастава!

Сёння Дараваная Нядзеля; сёння мы ўступаем у час Вялікага посту, час вясны душы чалавечае, калі яна пад уздзеяннем посту і малітвы абуджаецца і расцвітае духоўна. Пагэтаму Святая Царква і павучае нас сёння ў сваіх спевах: "постное время светло начнем, к подвигам духовным себе подложивше, очистим души, очистим плоть... да сподобимся вси видети всечестную страсть Христа Бога и святую Пасху, духовно радующеся".

Так у першы дзень посту Царква ставіць перад намі мэту: падрыхтавацца сябе да Святой Пасхі — пачаць подзвіг духоўнага адраджэння і абнаўлення, каб быць здольнымі ўвайсці ў пасхальную радасць дзеля Уваскрэсшага Госпада.

Дараваны дзень схіляе ўсіх нас да ўспаміну аб тым, што мы ўчынілі ў мінулым злога ў адносінах да бліжняга, дае магчымасць усім нам прынесці пасільны плод пакаяння адзін прад адным.

Прыгадаем сённяшняе літургійнае Евангелле:"Если вы будете прощать людям согрешения их, то простит и вам Отец ваш Небесный, а если не будете прощать людям согрешения их, то и Отец ваш не простит вам согрешений ваших" (Мф. 6, 14—15).

Як проста сказана, і як цяжка нам часам наследаваць гэтай запаведзі; як цяжка бывае пры шчырым раскаянні і смутку дзеля сваіх грахоў вымавіць звычайные слова: даруй! І як лёгка, аднак, робіцца на душы пасля таго, як гэтае слова сыдзе з нашых вуснаў... Даруйце ж, браты і сёстры, і мне, грэшнаму, паколькі зграшыў словам, справай, намерамі і ўсімі маімі пачуццямі!

Узлюбленыя! Давайце цяпер паразважаем над саракадзённым шляхам Вялікага посту. Найперш мы павінны са спадзяваннем на ўспамогу Божую, Прачыстай і ўсіх Святых цвёрда ўстаць на гэты шлях і пастарацца прайсці яго, прыдбаўшы дух міру, ціхмянства, браталюбства. Ачысцім і сэрцы свае ад злаславства, марных учынняў, шкодных намераў і згубных імкненняў — будзем памятаць, што сэрца з'яўляецца галоўнай змясціляю чалавечага жыцця. З яго выходзіць усё: і добрае, і злахітрае; яно насычае, часамі, цалкам супрацьлеглыя імкненні нашай душы, і мы мусім выбіраць паміж святлом і цемрай, паміж дабром і злом, паміж любоўю і нянавісцю. І як часта, на сваю бяду, мы схіляемся не туды, падаем — грашым. Пагэтаму будзем часцей усклікаць да Госпада пакаяннымі словамі прарока Давіда:"Помилуй мя, Боже, по велицей милости Твоей, и по множеству щедрот Тових очисти беззаконие мое... Сердце чисто созижди во мне, Боже, и дух прав обнови во утробе моей".

Браты і сёстры! Прыпадобнімся да Давіда слёзным раскаяннем у грахах сваіх, паспяшаемся да пакаяннага ацалення іх на споведзі, адчынім сэрца наша духаўніку і пачнем наша ўзыходжанне на гару дабрачыннага жыцця.

Але можа быць, нехта і насмеліцца сказаць або падумаць:"У мяне няма грахоў, я нікога не забіваў, я ніколі не краў, мне няма ў чым каяцца!" Калі ж у нас з вамі так аслабнуў духоўны зрок і мы не бачым сваіх злачынняў прад Богам і бліжнімі, дык азірнемся навокал: той распад і разбурэнне, тыя смуткі і хваробы ці не ёсць вынік нашага з вамі ўнутранага разладу ў саміх нас? Пры гэтым не будзем строга судзіць людзей, што жывуць не ў Царкве, але падумаем аб сабе, аб сваім ладзе жыцця, сваіх грахах і прыгадаем слова апостала Паўла. Ён параўноўвае Царкву з нашым арганізмам — целам, у якім калі пакутуе адзін член, пакутуе ўсё цела. А значыць, калі адзін саграшыў — духоўна захварэў, — дык гэта адбіваецца на многіх.

Якім жа адказным павінна быць наша жыццё — жыццё хрысціяніна?! Кожнае неразважлівае слова, кожны няўдалы ўчынак, нястрыманы позірк робіцца прычынай далёка ідучых сумных вынікаў. Таму і сказаў Спасіцель:"Горе тому человеку, через которого соблазн приходит". Так што "несть человек, иже жив будет и не согрешит", а пагэтаму паспяшаемся, узлюбленыя, прынесці шчырае пакаянне ў наступаючыя дні посту.

Вядома, у нашыя дні нялёгка спыніць сваю ўвагу на пакаянні. Неўладкаванасць сучаснага жыцця, усё ўзрастаючая мітусня яго будняў, рэзкія і нечаканыя змены, што адбываюцца ў ім, перашкаджаюць духоўнаму бадзёранню, аслабляюць нашы парывы стаць лепшымі, чым мы ёсць. Але ж раней бывалі часіны і цяжэйшыя за цяперашнія: здараліся войны, стыхійныя бедствы, моры, ганенні на Царкву. І тым не менш, людзі маліліся болей за нас, немачных; пасціліся стражэй за нас, нявартых; каяліся мацней за нас з нашым малым пакаяннем. І Гасподзь міламаў іх і дараваў ім!

Не лішне, дарагія, памятаць нам і пра тое, што беларусы — бацькі нашы — заўжды адрозніваліся шчырай набожнасцю, вылучаліся глыбока паважлівымі адносінамі да Царквы і шанаваннем яе святыней. З веку ў век нашы продкі аберагалі і рупна даглядалі свае храмы, з любоўю і благагавеннем адносіліся да мясцова ўшанаваных цудатворных абразоў, сярод якіх першае месца займалі іконы Прасвятой Багародзіцы. І сёння наш народ адрознівае цэлы шэраг высакародных маральных якасцей, якія ўзрасціла і ўзгадавала ў ім Царква: рэдкая дабрыня, незлапамятнасць, гасціннасць і міралюбства.

На жаль, вельмі многае і страчана з таго, чым жыў беларускі народ не так даўно. І трэба сказаць праўду: сённяшнія беды і неўладкаванасці нашага жыцця — цалкам заканамерныя. Яны — следства недастатковай раскаяннасці не толькі кожнага з нас паасобку, але і грамадства ў цэлым. І тыя заганы, што цяпер так забруджваюць наша жыццё, заглушаюць у ім парасткі сапраўднай духоўнасці, у канчатковым выніку пагражаюць грамадству горшым выйсцем. Бо ў гісторыі нярэдка здаралася, што дзяржавы, знешне дабрабытныя, якія валодалі немалою матэрыяльнаю моцаю, разбураліся з прычыны ўнутранага духоўнага разбэшчання. Нам гэта пакуль, дзякуй Богу, не пагражае, але задумацца і як мага хутчэй прадухіліць непажаданыя вынікі прагрэсіруючай бездухоўнасці крайне неабходна.

Нам не варта супакойваць сябе тым, што Гасподзь, па Сваёй любові да чалавека, будзе доўга цярпець нашы грахі. Ён мілуе і дарue толькі тады, калі чалавек звяртаецца да Яго з маленнем аб дараванні, калі людзі пакідаюць заганы, што скажаюць у іх вобраз і падабенства Божае, калі грамадства, нарэшце, прыходзіць да ўсведамлення важнасці і неабходнасці глыбокага пакаяння за ўчыненае.

Так было з Ніневіяй — сталіцай магутнага Асірыйскага царства. Прыгадаем: славуты Прарок Іёна па ўказанні Бога прыйшоў у гэты старажытны горад, што патанаў у багацці, спакусах і распуснасці, і выступіў у ім з пропаведдзю пакаяння. "Еще сорок дней и ночей, и Ниневия будет разрушена", — гучаў на вуліцах і плошчах Ніневіі голас Прарока. І народ паслухаў яго, пачуў слова Божае і, быць можа, нечакана для самога сябе звярнуўся да пакаяння, адрынуў распусны лад жыцця, разам з царом ад мала да вяліка апрануўся ў рызманы, стаў пасціцца... і Гасподзь памілаваў іх, хаця, здавалася, горад амаль ужо загінуў!

Узлюбленыя! Наколькі дазваляюць нам сілы нашы, наследуем гэтаму добраму прыкладу і заклікаем на дапамогу сонм Святых, што праззялі ў зямлі Беларускай! Хай прадстаяць яны перад Прастолам Усявышняга Госпада ў малітве за нас! Ускладзём на іх сваё спадзяванне, прыдбаем малітвамі іх дары міра, ціхмянства, браталюбства і, нягледзячы на ўвесь цяжар сённяшняга жыцця, паўстанем духоўна і звернемся да Госпада з плачам: Міласэрны Божа, памілуй нас, грэшных!

Ад усёй душы, дарагія браты і сёстры, жадаю вам годна прайсці шлях святога посту. Хай захавае ўсіх нас Гасподзь наш Ісус Хрыстос на гэтым шляху "не искушенными от злых", хай падасць нам Сваё заступніцтва Маці Божая. Амінь.

ФІЛАРЭТ,
мітрапаліт Мінскі і Слуцкі,
Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.

*Дараваная Нядзеля,*
*1993 г.,*
*г.Мінск.*

*Поучитесь!*

## Многие жалуются на развал экономики, нечеловеческие трудности, а здесь и работают с удовольствием, и деньги немалые получают, и жилье строят, и песни поют

**Зоя ЛАТУН**

Что изменилось за год на бывшем лесокомбинате, а ныне народном предприятии?

Вот отрывки из рассказа заместителя генерального директора Николая Печенко:

"Дисциплина стала иной: нет праздношатающихся, о пьянках и прогулах нет и разговоров. Это и понятно: за воротами очередь желающих работать на комбинате".

"Когда знаешь, что предприятие твое, все силы вкладываешь в работу, ведь из заработанных денег половина остается в объединении".

"В этом году народное предприятие отстроило 95-квартирный дом и 177-квартирный для малосемейных. Этим летом наши дети отдыхали не только в комбинатском летнем лагере, но и в городе Николаеве, Ростове-на-Дону, в Польше. Предприятие платило рублями и валютой."

"На комбинате дают возможность работать пенсионерам. Таких около 500 человек. Уходящие на пенсию получили материальную помощь по 2 тысячи рублей. В этом же году народное предприятие выплатило по 1 тысяче рублей давно ушедшим на пенсию. А таких 800 человек".

Глава самой большой на комбинате династии Юрий Иванович Жук сказал:"Я на комбинате 48 лет работаю. Сколько помню, мы ни один год не имели сырья в достатке. А в декабре трудились без простоев и авралов, даже в выходные. Сегодня у нас стабильность с сырьем, причем с запасом. Для коллектива главное — стабильность, она несет уверенность в будущем".

Год назад производственное объединение "Бобруйскдрев" первым в отрасли выкупилось и стало называться "Народное объединение "Бобруйскдрев". "Не поторопились ли?" — с этого вопроса и началась наша беседа с председателем правления, генеральным директором Владимиром Дмитриевичем Тарановым. Ему 41 год, по образованию экономист.

— Приватизация и привлечение личного интереса к результатам труда — это серьезно, это в крови труженика. Так работают на Западе уже не одно столетие. Думают о прибыли и благе коллектива. Вспомните, как твердили раньше: нам необязательна прибыль, главное — благосостояние человека. А без средств и капитальных вложений как его поднимешь!

— И все-таки вы рисковали?

— Риск — это точный расчет. И знание простой истины: потеряешь авторитет и уважение, не будешь и директором, не изберут... Год во всех отношениях трудный. И ругают меня, и поддерживают, и надеются — груз ответственности ощутим.

— На кого опираетесь в коллективе?

— Стараюсь быть ровным со всеми, а опираюсь на костяк руководителей структурных подразделений.

Мы воспитаны Александром Санчуковским, к сожалению, ушедшим из жизни. Он-то и создал крепкий коллектив. Научил людей жить без анонимок, кляуз и сведения счетов. Короче, мне достался мудрый и порядочный коллектив.

На народном предприятии все как и должно быть: и работают с удовольствием, и деньги немалые получают, и за здоровьем следят, и жилье строят, и песни поют — в этом я убедилась, побывав на праздничном вечере. Но было интересно, как при всеобщем развале экономики народное предприятие ухитряется без министерства добывать сырье? Тем более что последнее препятствовало выкупу, из двух закрепленных за предприятием леспромхозов "откололо" одно.

— У наших хозяйственников психологически изменилось понятие ответственности. За фондовый барьер уже не спрячешься. Раньше было легко оправдаться — нам не выделили", а теперь коллектив спрашивает:"Что вы сделали и зачем здесь?"

А вообще я считаю, что правительство должно заинтересовывать предприятие в привозе сырья со стороны. Тогда и лесосеку свою только нужда заставит рубить. Ведь мы же должны в республике экологию сохранять, тем более что в этом году в пожарах погибло много леса.

Завозя его со стороны, мы тратим большие деньги, значит, на перевозки должны быть льготы. Почему на изделия из российского леса надо выбивать лицензию при вывозе? Мы же белорусское сырье не брали, кто же, как не закон, будет защищать наш интерес? Но закон несовершенен.

В мае этого года в Республике Беларусь была образована ассоциация негосударственных предприятий. В нее вошло 38 предприятий различных отраслей промышленности. Владимир Таранов избран ее президентом.

— Вероятно, вам виднее теперь и общие характерные трудности?

— Самое главное — это ломка сознания на уровне руководства республики и местных властей. На постах привыкли к роли распределяющей и карающей, а не создающей условия для развития предприятий любой формы собственности. Ведь что говорить, основу национального богатства страны составляет обеспеченный человек, талантливый, мастеровой. Но издревле Левша, умеющий подковать блоху, умирал в бедности — видимо, это национальная черта. Ничто так не трудно перестроить, как консерватизм сознания большинства, которое понятие "собственник" не относит к себе самому. До сих пор не разработана правовая основа приватизации — опять закон отстает от жизни.

... Мы с вами вроде бы жили при системе, которая провозглашала социальную справедливость и равенство. А на самом деле происходило расслоение общества на распределяющих и просящих, дающих и берущих, болеющих за дело и тех, кто мечтал урвать, стащить, обойти закон. Самое страшное, что у людей появилось безразличное отношение к общегосударственной собственности. Даже дети резали парты, коверкали телефоны-автоматы, разбивали фонари и стекла. Обратный процесс сам по себе не пойдет, пока сознание не переродится. Человек — вот главная фигура в процессе приватизации. Это должно осознать все общество. Поэтому нужны законы, воспитывающие социально-активного человека, который думает не о разрушении, а о созидании. Законы, жестко карающие за нарушения, и законы, поощряющие добросовестный труд. Богатый человек, зарабатывающий состояние умом, талантом, мастерством, должен быть гордостью нации, а не предметом зависти и злобы. Только тогда приватизация даст результаты.

